facebookwkhpilnemxj7asaniu7vnjjbiltxjqhye3mhbshg7kx5tfyd.onion (2022-11-15)

# (14) Facebook

---

БЕЛАРУСКІ ГОМАН У ФБ ЯК ФЕНОМЕН ГІСТАРЫЧНАГА САМАЗАХАВАЛЬНАГА ЭСКАПІЗМУ І КАМБАТАНЦТВА?

Ужо гады два, як я, сядаючы ў кампутарнае крэсла, каб пагрузіцца ў свае гуманістычныя эмпірэі, кожны раз зведваю згрызоты сумлення і лагоднай меланхоліі: ці не драбнею я нават сам сабе, нараджаючы ў гэтыя дні завілыя і мудрагелістыя абзацы, нагрувашчаныя звышфразавымі адзінствамі ды алюзіямі?

Сапраўды, не да пацераў, калі хата гарыць… Недзе там далёка грымяць гарматы і паміраюць людзі. Тут блізка за кратамі сядзяць мае знаёмыя і сябры. Спрэчкі вырашаюцца не на дыспутах, а ў зялёнцы і стэпах. Што я магу, як лісток, гнаны ветрам, супраць ІСКАНДЭРАЎ? Толькі СМЯШЫЦЬ ПРЫНАЗОЎНІКІ…

Але зоры і музы не хочуць спаць. Бакавым зрокам праз адчыненыя дзверы з залы ў вітальню, я бачу каля кніжнай паліцы СЯКЕРУ І ШАВЕЦКУЮ ЛАПУ, якімі я некалі бараніўся ад няпрошаных позніх гасцей з водаканалу, ліфтанадзорнай службы, ОБЭПу ды інш., якім было канешне, як пану яешня, увайсці ў мой дом, парушыўшы маю легітымную асабістую прастору і загнаць у мае косці страх і безнадзею. Гэта было той год, калі я хадзіў, як на нябесныя маёўкі, на маршы пенсіянераў і ЖАНЧЫН У БЕЛЫМ.

ПАНЕГІРЫКІ ТЫРАНАМ І КАРЭЛЬСКІЯ БЯРОЗЫ

Асэнсоўваючы сваё самавызначэнне, я вяртаюся ў час, калі яшчэ існавала папяровая НАША НІВА пад рэдактарствам Андрэя Дынько і ў ёй расцягнулася аж на тры нумары наша спрэчка з Аляксандрам Фядутам пра аўтарства панегірычнай оды Някрасава Мураўёву-

вешальніку (“Бакал заздравный поднимая …”), пра якую Карней Чукоўскі напісаў тэкст з назвай «Поэт и палач».

З маёй добрай паэтычнай памяццю я нагадаў свайму апаненту, які без ценю сораму ўзахвоціўся весці вечар памяці Янку Купалу ў Палацы мастацтва, пра падобны панегірык найноўшага часу, як колішні кіраўнік прыўладнага моладзевага звязу, хаўруснік тырана, а потым адрынуты , як адпрацаваны матэрыял, напісаў аднастрофны панегірык пра пераможнага льва, што “гневом овладел народным” і пажадаў яму доўгія лета ў такой іпастасі…

Што рабіць, каб чуйныя шалі сэрца на схілу дня прыходзілі ў раўнавагу?

Набліжаючыся да тэмы, вынесенай у загаловак, узгадаю пабочнае, аднак вельмі істотнае для разумення беларускай ідэнтычнасці ахіленне ад той нашай спрэчкі ў НН пра аўтарства Някрасава, дзе я ўзгадаў верш Еўтушэнкі “Карликовые берёзы” і запытаўся Аляксандра як знаўца Польшчы, дзе ён ужо ў тыя гады змагаўся за свайго доктара габілітаванага, як бы палякі прарэагавалі на паэтычным вечары пры вялікіай сціжме інтэлектуальнай патрыятычнай публікі на паэтычную дэкларацыю, пададзеную як дыдыктычная максіма нацыянальнага характару, што стала у Еўтушэнкі паэтычнай дамінантай алегарычнага гандыйскага пратэсту на савецкую тыранію: “Мы выстоим под небесами, / … Когда нас корежит по-зверски , ../ .. Мы хитро придумали позы, / Но все это только притворство …”.

У нас у філармоніі на аўтарскім вечары Яўгенія Еўтушэнкі – быў час, калі грамілі нацыяналістаў ва Ўкраіне, а ў нас чысцілі акадэмічны асяродак – пасля рэцытацыі паэта, які, пакутліва, як карэльская бяроза, прыгнуўся да сцэны, а потым рэзка распраміўся і стаў ў позу ваяра, зала ЎЗАРВАЛАСЯ АПЛАДЫСМЕНТАМІ …

PS Павесіў тэкст ды забыўся напісаць ГАЛОЎНЫ СКАЗ: Пытальнік у загалоўку -- гэта стылістычная фігура , каб пазбегнуць чорна-белага ўспрымання напісанага. БЕЛАРУСКАМОЎНЫ ГОМАН у сеціве -- немалая зарука нашага бяссмерця, бо пакуль жыве мова, хоць часова і ў катакомбах, БЕЛАРУСЬ ЖЫВЕ.

Калі адраджаўся іўрыт, наш зямляк Бен-Егуда гаварыў, што галоўнае захаваць і запомніць зычныя кораня, а мішкалі і біньяны, як мяса на касцях, хутка нарастуць. ))